*Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».*

**№ 27 (4382)**

5 красавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НЕЗВЫЧАЙНАЯ СІТУАЦЫЯ





svaboda.org (RFE/RL)

# Курапаты: гром сярод яснага неба

*Учора ў Курапатах дэманціравалі і вывезлі 70 крыжоў, якія ў мінулым годзе паставіў Дзмітрый Дашкевіч разам з іншымі актывістамі. 15 абаронцаў затрымала міліцыя.*

З ранку 4 красавіка мемарыяльнае ўрочышча было ачэплена. У журналістаў, якія першымі прыбылі на месца разгорнутых работ па дэмантажы крыжоў па перыметры Курапатаў, наблізіцца да працуючых, як і да начальнікаў, якія кіравалі ўсім працэсам, не было магчымасці. Дырэктар Бараўлянскага спецыяльнага лясгаса Аляксандр Міранoвіч збег ад прэсы і не стаў тлумачыць сітуацыю дэпутату Палаты прадстаўнікоў Ганне Канапацкай, накіраваўшы яе ў прэс-цэнтр Міністэрства лясной гаспадаркі.

Паказаць дакументы, якія дазваляюць праводзіць тыя ці іншыя работы па добраўпарадкаванні мемарыяльнай тэрыторыі, спадар Міранoвіч адмовіўся. Праўда, інфармацыйнаму агенцтву "БЕЛТА" ён патлумачыў, што "ў Курапатах праходзяць планавыя работы..."

Крыжы, якія былі вырваны з зямлі кранамі, пагрузілі на машыны з завешанымі нумарнымі знакамі і павезлі ў невядомым накірунку. Каля 12 гадзін дня вакол мемарыяла пачалі ставіць агароджу. Ад аднаго з рабочых прасачылася інфармацыя, што пасля таго, як па перыметры будзе нацягнута металічная сетка, крыжы вернуць. Але ж ніхто з прадстаўнікоў улады яе не пацвердзіў. І гэта яшчэ больш распаліла эмоцыі вакол Курапатаў.

*(Працяг тэмы на 2-й стар.)*

## Сімвал народнай памяці

Курапаты – урочышча пад Мінскам, дзе ў 1937–1941 гадах карнікі НКУС расстралялі, паводле розных падлікаў, ад 40 да 200 тысяч чалавек.

У красавіку–маі 1988 года ў лясным масіве Курапаты былі знойдзены астанкі людзей. Гэтыя факты хутка сталі шырока вядомыя дзякуючы дзейнасці Зянона Пазьняка і грамадскай арганізацыі «Мартыралог Беларусі».

У чэрвені 1988 года была створана ўрадавая камісія, і пракуратурай БССР узбуджана крымінальная справа па выяўленых фактах.

У працэсе расследавання, як пацверджана ў інфармацыйным паведамленні Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь у чэрвені 1996 года, установлена, што тут з 1937-га па 1941 год супрацоўнікі НКУС БССР расстрэльвалі рэпрэсаваных жыхароў рэспублікі.

Пры аглядзе ляснога масіву выяўлена, што на тэрыторыі каля 30 гектараў размешчана 510 пахаванняў, з якіх падчас эксгумацыі праверана восем, і ў шасці з іх знойдзены шкілетныя астанкі людзей, адзенне і іншыя асабістыя рэчы загінуўшых.

Ва ўшанаванне памяці ахвяр пастаўлены крыжы, іншыя мемарыяльныя знакі, шчыты з надпісамі.

У Курапатах неаднойчы чыніліся факты вандалізму.

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

# Мычать запрещено!

Как связано кадротрясение в Могилеве и «песни в гетто» – формат официально дозволенного празднования Дня Воли?

Как связаны показательная активность чиновников в разрешении проблем могилевских коров и показательная неспособность этих же чиновников разрешить проблемы брестских активистов, которые безуспешно пытаются легально провести акции протеста против строительства аккумуляторного завода? Хотят. Как граждане Беларуси по Конституции имеют на это право. Но не могут этого сделать – им не разрешают.

Как связаны публичный разнос «вертикали», который устроил Александр Лукашенко в защиту коров, и его демонстративное молчание в защиту людей?

Да очень просто связаны.

Еще лет десять назад глава Беларуси признался, что «права человека понимает классически». А именно: право на жизнь, право на труд, право на зарплату… Все остальные претензии, связанные с правами человека, Александр Лукашенко, похоже, не понимает и не принимает.

Парадокс: в экономике мы говорим о переходе на шестой, самый высокий, технологический уклад – нанотехнологии, биотехнологии, информационные технологии, искусственный интеллект… Но вот что касается людей, прав человека, то упорно держимся за дремучее средневековье.

Но уж если мы решили ориентироваться на развитые общества, то давайте начинать с самых основ. Там давно признали, что у каждого человека, у каждого гражданина есть неотъемлемые, естественные, неотчуждаемые права, которые мы получаем просто по факту рождения, просто потому, что мы люди.

«Представители французского народа, образовав Национальное собрание и полагая, что невежество, забвение прав человека или пренебрежение ими являются единственной причиной общественных бедствий и испорченности правительств, приняли решение изложить в торжественной Декларации естественные, неотчуждаемые и священные права человека...» – так начинается французская Декларация прав человека и гражданина (1789 год). И далее статья 2: «Цель всякого политического союза – обеспечение естественных и неотъемлемых прав человека. Таковые – **свобода, собственность, безопасность и сопротивление угнетению**».

И Декларация прав человека ООН, и законодательства всех развитых стран в этой сфере исходят из того, что человек по факту рождения способен мыслить, оценивать, анализировать, соглашаться или не соглашаться и имеет право по этому поводу не молчать. То есть свобода мнений, свобода слова, свобода собраний, право голоса – это наши неотъемлемые, естественные, права. Просто потому, что мы – люди.

Если государство не понимает или не принимает этого, если «угнетает», то у народа есть право на восстание.

Проще говоря, концептуальный подход таков: государство должно гарантировать соблюдение прав и свобод человека, чтобы народ не был вынужден подняться на бунт.

В доказательство того, что постановка вопроса именно такова, приведу только один пример. Статья 20 Основного закона ФРГ провозглашает следующее: «Федеративная Республика Германия является демократическим и социальным федеративным государством. […] Всякому, кто попытается устранить этот строй, все немцы имеют право оказывать сопротивление, если не могут быть использованы иные средства».

Применительно к Беларуси эти самые «иные средства» государство нам использовать просто не позволяет.

Буквально в прошлом году белорусские власти торжественно отрапортовали, что наша страна наконец сделала решительный шаг к свободе собраний и митингов, закрепив законом заявительный принцип таких мероприятий. То есть внешне все красиво выглядит: теперь просто извещаешь власти о намерении провести митинг, собрание или иную акцию – и вперед. Вот только на практике все стало даже хуже, чем раньше.

Потому что акцию по-прежнему можно провести только в специально отведенных местах на выселках, чтобы участников никто не видел.

Потому что власти все равно могут запретить проведение мероприятия, сославшись на внезапный порыв «благоустроить территорию» или «другие планы». Именно это происходит в Бресте, где противники строительства аккумуляторного завода просто завалили власти заявками на проведение акций протеста. Но неизменно получают отказ, и вот уже год вынуждены выходить на несанкционированные акции по кормлению голубей.

И, наконец, главное – деньги. С организаторов массовых мероприятий Совмин постановил брать деньги – за оплату работы милиции, дежурство медиков, уборку территории. Будто «скорая», если вдруг потребуется, не обязана приехать по вызову абсолютно бесплатно; будто у ЖЭСов есть какой-то список людей, за которыми не надо убирать мусор; будто милиция отвечает за порядок в каких-то точках страны – за зарплату, а в каких-то – за дополнительное вознаграждение.

Суммы требуют немаленькие. Как сообщил лидер движения «За Свободу» Юрий Губаревич, в Минске расценки милиции по охране общественного порядка таковы: три базовые – для мероприятия на десять человек, 25 базовых – до сотни человек, 150 базовых для мероприятия от сотни до тысячи человек, а если людей больше – 250 базовых (6375 рублей). То есть за «Чернобыльский Шлях» или День Воли, где всегда больше тысячи участников, только милиции надо заплатить больше 3 тысяч долларов... Сегодня, чтобы провести массовую акцию протеста против обнищания людей, надо заплатить несколько тысяч долларов. Разве это не издевательство?! Над Конституцией, над людьми, над здравым смыслом…

Так что прежде, чем заступаться за коров, Лукашенко следовало бы заступиться за людей. Потому как люди в нашей стране, что коровы, превращены в существа зависимые и бессловесные.

Но власть не желает признать, что люди все-таки отличаются от коров. Что людям недостаточно быть напоенными, накормленными и при работе.

У меня лично складывается впечатление, что Лукашенко и его ближайшее окружение не понимают, зачем человеку политические и личные свободы. Зачем ему право высказывать мнение? Зачем ему право протестовать? Про шестой технологический уклад в экономике понимают, а про природу человека – совсем нет.

Между тем «невежество, забвение прав человека или пренебрежение ими являются единственной причиной общественных бедствий и испорченности правительств» (читай французскую Декларацию прав человека и гражданина). Тем более что в 1996 году, когда был приснопамятный референдум по изменению Конституции, глава государства клялся, что «мы многое заимствуем у французской демократии».

З ПРЫЗНАЧЭННЕМ!

## Уладзімір Дворнік – віцэ-прэм’ер!



Пасада віцэ-прэм’ера, курыруючага аграрны сектар, была вакантнай усяго некалькі дзён – 27 сакавіка прэзідэнт падпісаў указ аб адстаўцы тагачаснага віцэ-прэм’ера Міхаіла Русага, якога праз суткі-другія прызначыў памочнікам прэзідэнта – інспектарам па Магілёўскай вобласці.

І вось учора стала вядома, што віцэ-прэм’ерам будзе Уладзімір Дворнік.

16 красавіка яму споўніцца 56 гадоў. Дворнік нарадзіўся ў вёсцы Ровенская Слабада Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут. Уся яго працоўная дзейнасць так ці інакш была звязана з Гомельскай вобласцю.

Нейкі час Дворнік працаваў трактарыстам калгаса імя Дзяржынскага Рэчыцкага раёна, галоўным ветэрынарным урачом калгаса "Усход" Нараўлянскага раёна. Пасля займаў пасаду намесніка старшыні калгаса "Дружба" ў Мазырскім раёне, працаваў галоўным дзяржаўным ветэрынарным урачом Мазырскага раёна. Ёсць у ягонай працоўнай кніжцы запіс "дырэктар рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Саўгас-камбінат "Зара". У 2009–2010 гадах Дворнік – старшыня Мазырскага райвыканкама.

У канцы снежня 2010 года Аляксандр Лукашэнка прызначыў Уладзіміра Дворніка старшынёй Гомельскага аблвыканкама, на гэтай пасадзе ён працаваў да цяперашняга часу.

У Дворніка ёсць дзяржаўныя ўзнагароды, ён заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Беларусі. Быў членам Савета Рэспублікі трэцяга і чацвёртага скліканняў.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

КРЫМІНАЛ

## Дагуляліся!

*Чатырох хакеістаў мінскай хакейнай каманды «Юнацтва», якая зараз гуляе ў фінале чэмпіянату Беларусі, падазраюць у незаконным абарачэнні наркотыкаў.*

Як паведамляе МУС Беларусі, нарад міліцыі ў цэнтры горада праверыў двух хлопцаў, якія паводзілі сябе нервова. У іх знайшлі два палімерныя слоічкі з гашышам, папяровы скрутак з ідэнтычным змесцівам, тры пакункі насваю, шкляныя трубачкі, якімі можна карыстацца пры спажыванні наркотыкаў. Затрыманыя аказаліся хакеістамі клуба «Юнацтва-Мінск».

Таксама супрацоўнікі аддзялення па наркакантролі высветлілі, што да распаўсюджвання наркотыку непасрэднае дачыненне маюць яшчэ двое хакеістаў клуба, іх затрымалі на наступны дзень.

Праваахоўнікі будуць высвятляць схемы распаўсюджвання наркотыка ў камандзе, наколькі доўга і рэгулярна яе члены ўжывалі забароненыя рэчывы, якое кола хакеістаў (і не толькі іх) удзельнічала ў гэтым.

Распачаты крымінальныя справы на падставе чч.1,2 арт.328 Крымінальнага кодэкса (незаконнае абарачэнне наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх прэкурсораў і аналагаў).

**Віктар ШПАК.**

СЛЫШАЛИ?

## Попросили отсрочку…

Беларусь и Россия обсуждают продление срока российского кредита на строительство БелАЭС с 25 до 35 лет, сообщил вчера глава Минэнерго Виктор Каранкевич.

*«Этот вопрос находится в стадии обсуждения, вопрос прорабатывается на уровне министерств финансов Беларуси и России»*, – отметил Каранкевич.

Как известно, Россия выделила Беларуси на строительство Островецкой АЭС 10 миллиардов долларов кредита в рамках межправительственного соглашения. Эти средства на 90% покрывают финансирование строительства станции, остальные 10% оплачивает сама Беларусь. Запуск первого энергоблока АЭС планируется на 2019 год, второго – на 2020 год.

## На планеце цяпер пражывае 7,7 мільярда чалавек

*Праз 25–30 гадоў, паводле прагнозаў Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, будуць пражываць прыкладна 9,7 мільярда, а ў канцы стагоддзя – амаль 11 мільярдаў чалавек.*



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# У красной черты…

Министр финансов России Силуанов заявил о решении Путина выдать запрашиваемый государственный кредит Беларуси в размере 600 миллионов долларов на рефинансирование платежей по прежним долгам восточной соседке, подошедшим к погашению. В бытовом плане – это как зайти к соседу и попросить взаймы, чтобы вернуть ему ранее взятый долг. Смешно? Конечно. Но в российско-белорусских финансовых отношениях это постоянная практика.

Скажите, как в таком случае реагировать на слова наших высокопоставленных чиновников, что Беларусь ни в чем не зависит от России? Стоять с протянутой рукой и делать вид, что ты достойно выглядишь, – удел хвастливых, но небогатых.

Беларуси, чтобы рассчитываться с долгами перед Россией, было бы лучше перезанимать в другом месте. И нельзя сказать, что наши власти этого не делают. Только в январе–феврале текущего года привлечены внешние государственные займы на 139 миллионов долларов. Экспортно-импортный банк Китая прокредитовал нас на 5 миллионов долларов, Европейский банк развития – на 2,6 миллиона, МБРР – на 13,9 миллиона долларов, остальную сумму позаимствовали опять же у правительства и банков Российской Федерации.

Государственный долг Беларуси на 1 марта составил 44,3 миллиарда рублей, или 35 процентов к ВВП. Внешний госдолг составил 16,7 миллиарда долларов, внутренний – 8,6 миллиарда рублей, но более 80 процентов его занято в долларах. В 2018 году госдолг Беларуси увеличился на 3,2 миллиарда рублей, или на 7,6 процента. В 2019 году страна должна направить на выплаты по госдолгу 8,7 миллиарда рублей, в том числе по внешнему – 5,8 миллиарда рублей (естественно, в валюте), по внутреннему – 2,9 миллиарда рублей. При этом почти треть платежей приходится на погашение российских кредитов. Выплаты по госдолгу все более тяжким бременем ложатся на бюджет Беларуси.

Примерно три четверти белорусского госдолга ежегодно рефинансируются, и только четверть гасится за счет собственных источников. Уйти от этой проблемной пропорции Минфину никак не удается. И что будет с финансами Беларуси, если Россия не выдаст очередной кредит на то, чтобы ей же своевременно отдали долги? В лучшем случае надо будет срочно перекредитовываться на мировом рынке. Опыт размещения облигаций на еврорынке (евробондов) у Минфина уже есть. Но под 7–8 процентов годовых! Тогда как МВФ кредитует меньше чем под 3 процента, но требует реформ. На мировом рынке чем ниже финансовый рейтинг государства, тем большие облигационные проценты требуют потенциальные покупатели, страхуясь от риска. Естественно, Россия устала нас перекредитовывать и поставила устами Медведева ультиматум: переходите, по сути, на российское хозяйственное законодательство и российский рубль. Но если пойти по этому пути, то что останется от суверенитета?

Сейчас Министерство финансов готово искать валюту любыми способами, о чем его руководство торжественно заявляет: привлекать с внутреннего рынка, размещать облигации на российском рынке (предварительная сумма на 2019 год 10 миллиардов российских рублей) и в Китае (так называемые панда-бонды). Правда, на внешних рынках встает вопрос: под какие проценты? Китайцы, к примеру, не дали Беларуси желаемый рейтинг ААА, и Минфин воздержался от размещения облигаций под высокую доходность для китайских инвесторов, которая ему светила. На внутреннем рынке размещение гособлигаций также идет со скрипом. В январе единственный аукцион на бирже был признан несостоявшимся. И проценты по валютным облигациям приходится давать немалые (свыше 5 процентов годовых). Иначе у населения валютные заначки не выманить.

Если государство постоянно рефинансирует большую часть своих долгов и эти долги постоянно растут, то оно находится под прессингом известной финансовой пирамиды. Ему приходится постоянно выкручиваться. И Беларусь здесь не оригинальна. Таких стран в мире очень много. Поэтому, чтобы иметь представление о том, что страна в долгах как в шелках и дальше уже некуда, ориентируются на предельное отношение госдолга к ВВП страны. Для развивающихся стран, к которым относится и Беларусь, оно колеблется между 50 и 60 процентами. По методике МВФ, в госдолг засчитываются и гарантии, выданные по внешним кредитам правительством. Под них, например, выдаются нам китайские связанные кредиты. Если наши цементные заводы, например, не в состоянии гасить кредиты, в счет которых китайцы провели их реконструкцию, то платит по ним республиканский бюджет, то есть налогоплательщики. Так вот с этими правительственными гарантиями наш госдолг к ВВП находится у приведенной красной черты. Надо учесть еще и погашение облигаций местных органов, которыми переоформлены долги в основном сельхозпредприятий. И которые также приходится гасить местным бюджетам.

Развитые государства типа Японии, США, стран Западной Европы могут позволить себе по долгам вылезать за 100 процентов ВВП (у Японии госдолг к ВВП – 280 процентов). Их мощные экономики в состоянии обслуживать свой госдолг. К тому же у них нет проблемы валюты, которую Беларуси приходится с таким трудом зарабатывать. Мировая валюта находится у них в обращении. Но вот совсем не мощная экономика Греции оказалась в таких долгах, что не знает, как из них вылезти. Поэтому хотелось бы, чтобы наш Минфин и правительство думали не где и как разместить свои облигации, а как остановить рост государственного долга.

УТОЧНЕНИЕ

К сожалению, вынуждены опять исправлять неточность, закравшуюся на страницы газеты. В номере за 2 апреля на 4-й странице в письме Петра Малича «Достоин ли канонизации Иосиф Семашко?» ошибочно указано, что так называемый объединительный Полоцкий собор, в результате которого практически было уничтожено униатство, состоялся в 1939 году. На самом же деле это историческое событие, имевшее огромное значение в истории Беларуси, произошло в феврале **1839** года.

Приносим свои извинения читателям!



svaboda.org (RFE/RL)

ЗАЯВА

## Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ: «Крыж не павінен падзяляць, бо ён яднае неба з зямлёй, а людзей – у адзіную сям'ю братоў і сясцёр»

Праходзячы за мяжой курс рэабілітацыі пасля складанай аперацыі па стабілізацыі пазванкоў металаканструкцыямі, я тым не менш сачу за падзеямі, якія адбываюцца на маёй Радзіме.

Сёння сродкі масавай інфармацыі напоўнены трывожнымі звесткамі пра знос крыжоў у мемарыяльным комплексе ва ўрочышчы Курапаты, які разам са шматлікімі іншымі падобнымі месцамі на нашай Бацькаўшчыне з'яўляецца яе Галгофай і адначасова помнікам гісторыі і культуры.

Праблема Курапатаў цягнецца ўжо даўно і мае глыбокія карані, але яе неабходна як мага хутчэй вырашыць.

Пасля таго як напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя шырокай грамадскасці стала вядома пра месца злачынства, неабходна было правесці адпаведныя грунтоўныя даследаванні, як гэта зроблена ў іншых падобных месцах масавых пахаванняў, каб мець упэўненасць у тым, што тут адбылося.

Кожнае месца смерці і пахавання паводле хрысціянскай – і не толькі – традыцыі ўшаноўваецца. Гэтае месца – святое: месца памяці і малітвы.

Гэта таксама неад'емная частка гісторыі народа, без пазнання і ацэнкі якой ён не мае будучыні. Кожны народ павінен ведаць і паважаць гістарычную праўду з мэтай ачышчэння памяці, як да гэтага заклікае Святы Ян Павел II, каб паспяхова будаваць шчаслівую будучыню.

На жаль, своечасова гэта не было зроблена, і ў выніку пачалі ўзнікаць праблемы.

У кастрычніку было паведамлена, што да канца мінулага года ў Курапатах будзе ўстаноўлены памятны знак, каля якога таксама можна будзе памаліцца. Аднак ніхто не спытаўся ў прадстаўнікоў веравызнанняў, як павінна выглядаць месца малітвы, асабліва капліца: ці яна павінна быць міжканфесійнай і міжрэлігійнай, ці, можа, лепш кожнаму веравызнанню мець сваю.

Між тым неабыякавыя да трагедыі масавых забойстваў людзі прыходзілі ў Курапаты, каб памаліцца, і імкнуліся нейкім чынам пазначыць гэтае месца і ўшанаваць памяць забітых і пахаваных тут продкаў і суайчыннікаў.

Такім чынам ва ўрочышчы з'явіліся крыжы, як гэта спрадвеку прынята рабіць на могілках і ў месцах пахаванняў. Крыжы ставілі без афіцыйнага дазволу, але ўлада не забараняла гэтага рабіць.

За апошнія 30 гадоў пступова з'явіўся своеасаблівы «Курапацкі пантэон» – стыхійны мемарыял, вядомы ва ўсім свеце.

Таму нечаканы знос крыжоў выклікае, мякка кажучы, здзіўленне. Ніхто не кажа пра тое, што не трэба ўпарадкаваць тэрыторыю ўрочышча Курапаты, але не кош там абразы пачуццяў вернікаў. Я лічу, што неабходна арганізаваць грамадскае абмеркаванне плана ўпарадкавання тэрыторыі Курапатаў з удзелам прадстаўнікоў розных веравызнанняў.

Больш за тое, акцыя зносу крыжоў праводзіцца падчас Вялікага посту, калі ўсе хрысціяне свой позірк скіроўваюць на Крыж Хрыста – знак нашага збаўлення і надзеі. З крыжам ваявалі атэісты, нішчылі яго. На вялікі жаль, сёння, калі афіцыйна няма дзяржаўнай ідэалогіі атэізму, яна зноў рэальна праяўляецца.

Заклікаю адказных за знос крыжоў тэрмінова спыніць гэтыя дзеянні і шляхам дыялогу розных палітычных і грамадскіх сіл з удзелам прадстаўнікоў розных веравызнанняў распачаць працэс урэгулявання сітуацыі.

Наша краіна патрабуе стабільнасці, а разгойдванне чоўна палітычнага і грамадскага жыцця супярэчыць гэтаму. Крыж не павінен падзяляць, бо ён яднае неба з зямлёю, а людзей – паміж сабою ў адзіную сям'ю братоў і сясцёр. Нездарма нават вядомы кожнаму з першага класа знак складання мае менавіта форму крыжыка.

З надзеяй і малітвай аб мірным вырашэнні праблемы –

**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч,**
**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,**
**старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.**

*Беласток, 4 красавіка 2019 г.*

НЕ МАГУ МАЎЧАЦЬ!

## Няма крыжа – няма і сістэмы каардынат…

Князь цемры прыходзіць не абавязкова апоўначы ў выглядзе рагата-хвастатай істоты. Ён можа з'явіцца ў аблічча вонкава прыстойнага прафесара чорнай магіі Воланда – як тое аднойчы адбылося на Патрыяршых ставах у Маскве. Ён можа назвацца Мефістофелем і па-філасофску абгрунтоўваць свае спакусы. Ён можа насіць пагоны генералісімуса ці мець званне яфрэйтара, але сутнасць яго застаецца нязменнай – узрасціць у душы чалавека насенне зла, завабіць яго ў свае мярэжы, спіхнуць у прорву граху.

Учора князь цемры аб'явіўся ў Курапатах і, сеўшы адразу ў некалькі экскаватараў і самазвал, выдраў з зямлі 70 крыжоў і звёз іх у невядомым кірунку. Такі сабе калектыўны Воланд ці талака Мефістофеля, можна называць як заўгодна. І зроблена гэта было дэманстратыўна, напаказ усяму свету, у час Вялікага перадвелікоднага посту.

Нам толькі здаецца, што жывём мы ў хрысціянскай краіне. Ужо чвэрць стагоддзя мы існуём пад скіпетрам улады, якая вызнае "праваслаўны атэізм". І вось маем надзвычай характэрную яго праяву.

Гэта, лічу, хлусня, што яны камусьці перашкаджалі.

Гэта, лічу, блюзнерства, што яны засмечвалі лес.

Гэта, лічу, крывадушша, што нейкае там міністэрства не санкцыянавала іх усталяванне.

Перашкаджаць курапацкія крыжы маглі з іншай нагоды. Неяк у Сынкавіцкай царкве я бачыў, як аднаго мужчыну літаральна затрэсла, калі святар наблізіў да яго крыж. Ён выскачыў з храма з ашалелымі вачыма. Відаць, і тых, хто даваў каманду на знос крыжоў, трэсла і калаціла, калі яны бачылі тыя крыжы з кружной дарогі, калі яны, магчыма, ехалі абедаць у рэстаран "Поедем поедим", калі яны назіралі, як сотні людзей падчас курапацкай "Ночы паэтаў" запальвалі пад тымі крыжамі знічы памяці.

Крыж – сімвал хрысціянства, яго сутнасць, гэта адна з сістэм каардынат для ўсяго людства, бо:

*Свет вакол проста галавакружны.*
*У чалавецтва кружыцца галава*
*Ад эверэстаў, парнасаў, п'едэсталаў,*
*Малакроўя, толькі беларускай, кахання,*
*Ніцшэ, дыму айчыны, $C_2O$…*
*І чалавецтва збіваецца з тропу,*
*Губляе арыенціры,*
*Роспачна азіраецца навокал,*
*Ловіць у ветразі ружу вятроў,*
*Хапаецца за звыклыя восі X і У,*
*Тузаецца ў трохмернай прасторы, –*
*Дарэмна: свет стае лабірынтам.*
*І толькі сістэма каардынат Крыжа*
*Вяртае людзей на свае месца…*

Няма крыжа – няма і сістэмы каардынат. І тады ўсё дазволена. І тады дзесяць Божых запаветаў – проста нагода пазубаскаліць. І тады калектыўны Воланд зладзіць на беларускай зямлі такую вакханалію, якой пазайздросцяць на тым свеце генералісімус з яфрэйтарам.

На Беларусі Бог жыве? Жыве.

Але і д'ябальшчына ў нашай краіне ўжо не прыхоўваецца, яна – напаказ.

**Міхась СКОБЛА.**

МИНИСТЕРСТВО СООБЩАЕТ…

## Проводятся плановые работы по благоустройству лесного фонда на территории ГСЛХУ «Боровлянский спецлесхоз»

*«В рамках наведения порядка специалистами учреждения проводится монтаж ограждений, удаление отдельных сооружений,* – такое сообщение появилось на сайте Министерства лесного хозяйства после того, как разгорелся скандал вокруг демонтажа крестов по периметру мемориала. – *Данные работы в том числе проводятся в Куропатах, территория которых является историко-культурной ценностью и землями государственного лесного фонда. Обращаем внимание граждан, что специалистами лесхоза осуществляется снос исключительно тех объектов, которые были установлены без какой-либо разрешительной документации, то есть являющихся незаконно установленными».*

АФІЦЫЙНА

## Наталля Эйсмант пракаментавала знос крыжоў у Курапатах

«Наша Ніва» звярнулася да прэс-сакратара Аляксандра Лукашэнкі Наталлі Эйсмант з просьбай пракаментаваць сітуацыю вакол Курапатаў.

*«Чытайце прэзідэнта! Падчас «Вялікай размовы» кіраўніком дзяржавы было абяцана, што ў Курапатах будзе наведзены парадак, даручэнне заняцца гэтым было дадзена адпаведным ведамствам. Гэтае месца трэба добраўпарадкаваць, гэта адназначная пазіцыя прэзідэнта, там пахаваны нашы людзі! Але ўсё павінна быць зроблена як мае быць, паводле нашых звычаяў, рэлігійных традыцый, згодна з планам. Будзе зроблена ўсё, каб гэтае месца выглядала годна, але без усякай палітыкі»,* – адказала Наталля Эйсмант.

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

## Святлана АЛЕКСІЕВІЧ, нобелеўскі лаўрэат па літаратуры: «Нічога падобнага, колькі б я ні ездзіла па свеце, я не бачыла…»

– Ясна адно: дзяржава наступае на народную ініцыятыву. Дзяржава хоча ўзяць усё пад свой кантроль, не разумеючы, што ўсё ўзяць пад кантроль немагчыма. Гэтыя крыжы ўсё адно застануцца ў памяці, у нашай свядомасці, – сказала Святлана Аляксандраўна "Нашай Ніве". – Гэта наступ, наступ на ўсю грамадзянскую ініцыятыву. Я думаю, што Курапаты былі сімвалам народнай самастойнасці, народнай памяці. І дзяржава не хоча з гэтым мірыцца, асабліва перад выбарамі. Таму ідзе такая зачыстка. Гэта ўсё формы свабоды, а дзяржава не хоча мірыцца ні з якой свабодай.

Што казаць, калі міністр унутраных спраў надзявае касцюм генерала НКВД і ідзе на нейкае святкаванне. І калі Лукашэнка выступаў, то сказаў міністру: «Вам няма чаго саромецца». Дзяржава не хоча мірыцца, прызнаваць рэпрэсіі. Дзяржава хоча пакінуць мінулае ў разуменні тых сталінскіх часоў.

Ні пра якое пакаянне пакуль гаварыць нельга. Яны думаюць, што паставяць помнік свой і такім чынам выкупяць свае грахі, кроў, смерці. Не, гэтым яны не выкупяць. Гэтым яны зробяць толькі тое, што больш сур'ёзным будзе да іх рахунак у будучыні. А ён абавязкова будзе.

Курапаты – унікальны народны помнік. Сам народ знайшоў яму форму, сам народ ваяваў за яго, адваяваў яго. Нічога падобнага, колькі б я ні ездзіла па свеце, я не бачыла. І яны думаюць, што паставяць кавалак гэтага казённага каменю – і людзі пойдуць туды плакаць? Не, гэтага не будзе ніколі. І нават таму гэта злачынства».

РЭЗАНАНС

## Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік: «Гэта проста варварства…»

*Акадэмік Радзім Гарэцкі гаворыць, што апошнім часам не быў у Курапатах – займаецца сваім здароўем. Але калі пачуў навіну пра дэмантаж крыжоў – забалела сэрца.*

– Я проста анямеў, калі даведаўся пра знос крыжоў у Курапатах… – *падзяліўся думкамі з "Народнай Воляй" Радзім Гаўрылавіч.* – Гэта дзікунства! І тое, што нехта даў на гэта дазвол… Як кажуць, далей ехаць ужо няма куды. У мяне проста няма слоў! Гэта варварства!

На 100 працэнтаў даказана, што ў Курапатах адбываліся масавыя забойствы людзей. Нават КДБ прызнавала гэты факт!

Безумоўна, я на баку тых, хто абараняе Курапаты.

У свой час Клінтан быў у Курапатах, была там яго лаўка, і колькі з яе за апошні час здзекаў было!

Я не разумею, чаму так адбываецца… Відаць, з самага верху загад такі. Хаця мне падаецца, што многія высокапастаўленыя чыноўнікі ні разу не былі ў Курапатах – можа, толькі міма праязджалі.

## Павел ХАРЛАНЧУК: «Яшчэ раз іх расстралялі…»

*Артыст і рэжысёр Купалаўскага тэатра Павел Харланчук на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку" выказаўся наконт знішчэння курапацкіх крыжоў.*

"Жахліва! Непавага і знішчэнне свайго. Без тлумачэнняў, без закона.

Мы не ўмеем прасіць прабачэння, таму і стаім на месцы. Лягчэй вырваць і раскатаць да зямлі. Нават, калі гэта крыжы. Нават, калі гісторыя. Нават, калі там людзі…

Яшчэ раз іх расстралялі. Яшчэ раз.

Прыкра і ганебна!

Тым, хто даваў загад, хто выконваў, не можа не адгукнуцца.

Адгукнецца.

Ніколі гэта не праходзіла бясследна. Іначай і быць не можа.

Проста жудасна…"

## Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ, былы старшыня руху "За Свабоду!":

– У нас на вёсцы ў Берштах не было больш нялюдскага злачынства, чым пашкодзіць крыжы на могілках…

АД РЭДАКЦЫІ

Магчыма, пройдзе нейкі час, і жарсці вакол Курапатаў сціхнуць. Але ж і разгарэліся яны ўчора не на голым месцы. Чаму ўлады загадзя не праінфармавалі грамадскасць пра план добраўпарадкавання мемарыяла, не сказалі, як ён будзе выглядаць пасля гэтага, якая неабходнасць у дэмантажы крыжоў? Не, трымалі ўсё ў сакрэце да апошняга.

Дай Бог, каб Курапаты нарэшце сталі не толькі святым сімвалам ПАМЯЦІ нацыі, але, як сказаў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, месцам, якое яднае неба з зямлёю, а людзей – у адзіную сям'ю братоў і сясцёр.

ЧУЛІ?

## Па традыцыйным маршруце…

*Створаны аргкамітэт Чарнобыльскага Шляху – 2019, і ўжо адбылося яго першае пасяджэнне.*

У аргкамітэт увайшлі Партыя БНФ, партыя «Зялёныя», аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», БСДП, ПАГА «Рух за Свабоду», АГП, Рух салідарнасці «Разам», грамадскае аб'яднанне «Экадом».

8 красавіка плануецца падача заяўкі ў Мінгарвыканкам на правядзенне традыцыйнай жалобнай акцыі па звыклым маршруце: збор у 17.30 на пляцоўцы каля галоўнага ўваходу ў Прэзідыум НАН Беларусі, шэсце да памятнага знака «Ахвярам Чарнобыля», мітынг і ўскладанне кветак да памятнага знака.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

МИГРАЦИЯ

## В Польшу на постоянное жительство переехали более 20 тысяч белорусов

По сравнению с 2017 годом количество наших соотечественников, переехавших жить в Польшу, увеличилось почти вдвое.

Теперь белорусы – вторая по величине группа иностранцев (после украинцев) с документами, которые дают право на долгосрочное пребывание в Польше.

Как сообщили belsat.eu в Управлении по делам иностранцев, большая часть (15 тысяч) получили постоянный вид на жительство по польским корням и карте поляка, владельцам которой проще получить польское гражданство.

Возраст приблизительно 59% белорусов в Польше 20–39 лет, 23% – 40–59 лет, 14% моложе 20 лет. Большинство белорусов живет в Мазовецком воеводстве – 7300 человек. На втором месте – Подляское – 4500 человек.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## 41 задержанный

Следственный комитет завершил расследование дела о поставке в Беларусь смеси семян мака и маковой соломы.

По данным следствия, в период с января 2015-го по май 2018 года на территории Беларуси действовала преступная организация. Общее руководство группой осуществлял 48-летний мужчина. Сырье для наркотических средств доставлялось из Украины и России на законспирированные склады в Беларуси.

С июля 2017-го по июнь 2018 года в рамках дела был задержан 41 человек в возрасте от 20 до 55 лет.

Уголовное дело передано прокурору для направления в суд.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## Калі будзем плаціць дарожны збор па-новаму?

Гаворка ідзе пра ўказ прэзідэнта, якога, можна сказаць, чакаюць усе аўтааматары краіны – «Аб плацяжах за ўдзел у дарожным руху». Гэтым дакументам павінен змяніцца парадак аплаты так званага дарожнага збору: аплачваць пошліну можна будзе памесячна. І, дарэчы, калі на пачатку года Мінфін абнародаваў праект указа, меркавалася, што 1 красавіка ўступяць у сілу яго асноўныя палажэнні, а з 1 ліпеня – палажэнні аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці.

Чаму дакумент пакуль не прыняты?

У прэс-службе Міністэрства фінансаў адказваюць, што гэтае пытанне зараз не ў іх кампетэнцыі. *«Да 8 лютага Мінфін мусіў перадаць праект дакумента ў Саўмін, што і было зроблена*, – патлумачыла прэс-сакратар ведамства **Ірына Комар**. – *Мы, як і ўсе грамадзяне, таксама чакаем, калі ўказ будзе падпісаны»*.

У Савеце міністраў таксама запэўніваюць, што *«сваю частку адпрацавалі і накіравалі дакумент у Адміністрацыю прэзідэнта»*, цяпер трэба чакаць, калі ўказ падпіша Аляксандр Лукашэнка, і выказваюць меркаванне, што гэта павінна адбыцца ў хуткім часе…

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

### Якія змяненні чакаюцца?

У дакуменце, які распрацаваны, некалькі галоўных момантаў.

1.Плаціць дарожны збор можна будзе не адразу за год, як зараз, а за перыяд, які кіроўца вырашыць сам, зыходзячы з таго, колькі месяцаў ён ездзіць на сваім аўтамабілі. Мінімальны перыяд, за які ўносіцца плата, – адзін каляндарны месяц, максімальны – два гады.

Сума дарожнага збору, як і зараз, залежыць ад масы аўтамабіля.

2.Калі аўтааматар заплаціць дарожны збор адразу за год альбо за большы перыяд, то будзе мець добрую зніжку – 20%.

3.Аплачваць пошліну трэба будзе праз АРІП.

4.Аплачаная пошліна не падлягае вяртанню ў тым ліку і тады, калі ўладальнік транспартнага сродку прадаў або разбіў аўтамабіль.

5.Адсутнасць аплаты аўтаматычна будзе адсочвацца праз камеры – па некаторых дадзеных, для гэтага збіраліся задзейнічаць магутнасці BelToll. За кожнае выяўленае парушэнне – штраф 25,5 рубля, які трэба будзе аплаціць на працягу 30 дзён з моманту атрымання «ліста шчасця».

РЭГІСТРАТУРА

## Безрэцэптурых лекаў паменее

*Міністэрствам аховы здароўя падрыхтаваны праект новай рэдакцыі пераліку лекавых сродкаў, якія рэалізуюцца без рэцэпта ўрача. Спіс заўважна скарацілі.*

«*Гэта абумоўлена частымі выпадкамі сур'ёзных непажаданых рэакцый аж да анафілактычнага шоку*», – патлумачыла начальнік упраўлення фармацэўтычнай інспекцыі і арганізацыі лекавага забеспячэння міністэрства **Наталля Малашка**, адзначыўшы, што *«нестэроідныя супрацьзапаленчыя сродкі і спазмалітыкі, якія прымяняюцца пры вострых станах, засталіся ў пераліку безрэцэптурных прэпаратаў»*.

Якія лекі з тых, што зараз мы можам свабодна набываць у аптэках, у хуткім часе будуць адпускацца толькі па рэцэпце ўрача? На сайце медыцынскага ведамства пазначана, што гэта:

– большасць ін'екцыйных ЛС (у тым ліку «Алфлутоп», «Актавегін», «Салкасерыл», лідакаін, антыбактэрыяльныя ЛС);

– глюкакортыкастэроіды для інгаляцыйнага прымянення, паколькі яны аказваюць сістэмнае дзеянне і не прызначаны для ўжывання без рэкамендацыі ўрача, адпускаюцца ў аптэках па льготных рэцэптах;

– глюкакортыкастэроіды для інтраназальнага прымянення;

– камбінаваныя аральныя кантрацэптывы, за выключэннем сродкаў экстранай кантрацэпцыі;

– інгібітары 5-альфа-рэдуктазы (фінастэрыд, дутастэрыд) у сувязі са зменай профілю бяспекі;

– кліндаміцын (у формах для вагінальнага прымянення), метфармін і некаторыя ЛС, якія ўплываюць на сардэчна-сасудзістую сістэму: прапафенон, гідрахлортыязід у камбінацыі з трыаметронам, спіроналактон, торасемід і бэта-адрэнаблакатар атэналол у камбінацыі з дыурэтыкамі і блакатарамі кальцыевых каналаў, у сувязі з ужываннем якіх узнікае шэраг выпадкаў з сур'ёзнымі пабочнымі рэакцыямі пры самастойным ужыванні;

– некаторыя кроплі для вачэй імпартнай вытворчасці, якія ўяўляюць сабой спалучэнне антыбактэрыяльнага кампанента з глюкакортыкастэроідамі і якія не маюць айчынных аналагаў.

Дарэчы, значна скарочана група безрэцэптурных антыбіётыкаў. У пераліку лекаў, якія рэалізуюцца без рэцэпта ўрача, засталіся толькі амоксіцылін, амоксіцылін + клавуланавая кіслата, ампіцылін, даксіцыклін і вытворныя нітрафурана ў формах для ўнутранага ўжывання.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ФАКТ

## На беластоцкім рынку збіраюць подпісы за вяртанне віз «на закупы» для беларусаў

У сувязі з тым, што з пачатку 2019 года зменшылася колькасць беларусаў, якія наведваюць беластоцкі рынак на вуліцы Кавалерыйскай, скарацілася і колькасць гандляроў – паведамляе беластоцкае «Радыё Рацыя».

Гандляры з рынку на Кавалерыйскай вырашылі звярнуцца да кіраўніцтва краіны, з тым каб у Пасольстве Польшчы ў Беларусі аднавілі выдачу віз «на закупы», якія перасталі выдаваць з пачатку 2019 года.

Да беластоцкіх гандляроў далучыўся і дэпутат Сейма **Роберт Тышкевіч**, а таксама **Томаш Франкоўскі**, які вылучае сваю кандыдатуру на дэпутацкі мандат у Еўрапарламент. Народныя абраннікі асабіста пабывалі на рынку на Кавалерыйскай і пераканаліся, што справы гандляроў, іх выбаршчыкаў, значна пагоршыліся, а таму выступаюць за тое, каб вярнуць беларусам візы «на закупы» і аблегчыць іх прыезд у Польшчу.

Абодва дэпутаты, прамаўляючы на беластоцкім рынку, заўважылі, што мяжа з Беларуссю, замест таго каб быць больш адкрытай, становіцца яшчэ больш замураванай і гэтую сітуацыю варта змяніць.

**Аляксей МІХАЛЕВІЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# Як інваліду зарабіць на жыццё?

*У Гродзенскай вобласці зарэгістраваны 63 тысячы інвалідаў. З іх 7733 чалавекі ўваходзяць у склад грамадскай арганізацыі «Беларускае таварыства інвалідаў». І толькі 143 сябры гэтай арганізацыі маюць сталую работу. А працаваць хоча значна большая колькасць. Якое выйсце можа быць з гэтай сітуацыі, разбіралася «Народная Воля».*

### Дзяржава падтрымала, але…

Яшчэ на пачатку 1990-х гадоў у некалькіх гарадах Гродзенскай вобласці абласная арганізацыя Таварыства інвалідаў стварыла шэсць прадпрыемстваў. Яны дзейнічаюць дагэтуль. Тут займаюцца пашывам адзення, рамонтам аўтамабіляў, вырабам аўтамабільных фільтраў і запраўкай пенных парашковых вогнетушыцеляў.

Старшыня абласной арганізацыі Таварыства інвалідаў **Васіль Лукашэвіч** расказвае, што ўсе гэтыя прадпрыемствы ствараліся толькі з адной мэтай – даць магчымасць зарабіць людзям з абмежаванымі магчымасцямі, многія з якіх інваліды з дзяцінства і маюць зусім мізэрныя пенсіі – зараз 160–180 рублёў.

*«Да 1997 года нам дзяржава выдзяляла нейкія сродкі на рэабілітацыю і шмат хто з інвалідаў мог раз у год з'ездзіць, скажам, у санаторый і папрацьць здароўе, але потым гэтую льготу скасавалі»,* – распавядае Лукашэвіч.

Дзяржава, аднак, падтрымала жаданне інвалідаў працаваць і зарабляць. Згодна з рашэннем Савета міністраў, прадпрыемствы, на якіх працуе 50% работнікаў-інвалідаў, маюць ільготы па падатках.

«*Нашы прадпрыемствы не плацяць падатак на дададзеную вартасць,* – адзначае спадар Лукашэвіч. – *Акрамя гэтага, за арэнду памяшканняў мы плацім толькі 10 працэнтаў»*.

Васіль кажа, што спачатку гэта дало вялікі стымул адкрываць вытворчасць і імкнуцца зарабляць грошы, паколькі частка адлічэнняў ад прыбытку гэтых прадпрыемстваў – да 2,5 працэнта – пераводзіцца на патрэбы таварыства інвалідаў, а значыць, на іх падтрымку. Праўда, энтузіязм хутка знік.

Справа ў тым, што пераважная большасць тых, хто працуе на дадзеных прадпрыемствах, – інваліды з парушэннямі апорна-рухальнага апарату. Практыка ж засведчыла, што 50% работнікаў-інвалідаў – гэта занадта шмат, каб яно магло паўнавартасна функцыянаваць.

Акрамя таго, інваліды I і II груп працуюць па 7 гадзін, а калі нехта мае дадатковыя праблемы са здароўем, то і па 4 гадзіны. Іх, як заўважае старшыня абласной арганізацыі таварыства, больш працаваць не прымушаюць і ніякіх прэтэнзій не выказваюць, паколькі сама мэта такіх прадпрыемстваў якраз у тым, каб дапамагаць жыць інвалідам.

«*Тым не менш заробак інваліда на нашых прадпрыемствах складае зараз у сярэднім 350 рублёў і вышэй, а заробак здаровага чалавека – 500 рублёў і вышэй»*, – канстатуе Лукашэвіч.

Спадар Васіль, гаворачы пра цяжкасці сваіх прадпрыемстваў, звяртае ўвагу на тое, што ўсе яны звязаны з агульнаэканамічнымі праблемамі, якія існуюць у сённяшняй Беларусі.

Яскравы прыклад: калі заключаюцца дамовы на пастаўку прадукцыі, то спажыўцы адмаўляюцца запісваць у дамове дакладную дату гарантаваных разлікаў і аплату, бывае, робяць несвоечасова.

«*Яны нам кажуць: не можам разлічыцца, нам таксама не заплацілі*, – тлумачыць спадар Лукашэвіч. – *Але мы працуем толькі пад заказ, у нас практычна няма абаротных сродкаў, і калі з намі не разлічыліся, то мы ўжо не маем за што закупіць сыравіну і не можам брацца за наступны заказ»*.

### Праблемы аднолькавыя

ТПУП «ІнваШанс», заснавальнікам якога з'яўляецца абласная арганізацыя ГА «Таварыства інвалідаў», спецыялізуецца на пашыве спецадзення і ваеннай формы. Дырэктар прадпрыемства **Мікола Лемяноўскі** распавядае пра нябачныя цяжкасці яго дзейнасці. «ІнваШансу» даводзіцца канкурыраваць на беларускім рынку з прадпрымальнікамі і бізнесменамі, якія рэалізуюць падобную рабочую вопратку, выробленую ў Расіі і іншых былых савецкіх рэспубліках. Дык вось, з жалем адзначае спадар Лемяноўскі, ужо гатовае адзенне, прывезенае з-за мяжы, каштуе амаль столькі, колькі іх прадпрыемству трэба затраціць толькі на тканіну і фурнітуру, не ўлічваючы працы работнікаў.



Людміла Бельская, інвалід II групы, працуе на прадпрыемстве «ІнваШанс».



Васіль Лукашэвіч, старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі Беларускага таварыства інвалідаў.

**Сяргей Мальчык,** намеснік дырэктара, працягвае размову пра праблемы.

Першае, на што ён звяртае ўвагу: большасць інвалідаў, якія прыходзяць да іх у пошуках працы, не маюць ніякай кваліфікацыі, што патрабуе дадатковых затрат на іх навучанне.

Па-другое, прадпрыемства хоць і мае льготы ад дзяржавы, але ўсе сэканомленыя сродкі накіроўвае не на пашырэнне вытворчасці, а на патрэбы таварыства інвалідаў, каб стварыць для іх магчымасць удзельнічаць у грамадскім жыцці. І, адзначае адзін з кіраўнікоў «ІнваШансу», на жаль, гэты важнейшы фактар дзяржавай не ўлічваецца.

«*Напэўна, нікому не варта тлумачыць, што прадукцыйнасць працы інвалідаў значна ніжэйшая, чым у здаровых людзей,* – канстатуе спадар Мальчык. – *Гэта значыць, што і сабекошт нашай прадукцыі вышэйшы, а канкурыраваць на рынку нам даводзіцца на роўных. То бок мы ад самага пачатку знаходзімся ў пройгрышнай сітуацыі»*.

### На рынку працы інваліднасць не ўлічваецца – канкурэнцыя

Сярод інвалідаў жадаючых працаваць шмат. І звязана гэта найперш з тым, што значна даражэе жыццё: растуць цэны на прадукты і паслугі, а пенсіі інвалідаў застаюцца малымі.

Як распавядае Васіль Лукашэвіч, спробы пашырыць існуючыя прадпрыемствы ці адкрыць новыя рабіліся, але безвынікова. І першая праблема, паводле яго меркавання, палягае ў тым, што пад гэта няма адпаведных памяшканняў: «*Калі нам і прапаноўваюць нейкае памяшканне ў арэнду, то яно, як правіла, без акон і дзвярэй, неабходны значныя ўкладанні, каб правесці рэнавацыю. Але мы папросту не маем на гэта грошай»*.

Напрыклад, у цэху таго ж «ІнваШансу», дзе шыецца рабочая вопратка, усё настолькі шчыльна застаўлена абсталяваннем, швейнымі машынкамі, што там няма магчымасці размясціць новыя працоўныя месцы.

Акрамя таго, адзначае спадар Лукашэвіч, зараз даволі складана знайсці кіраўнікоў такіх прадпрыемстваў, якія былі б зацікаўлены ў гэтай працы і імкнуліся падтрымліваць рэнтабельнасць вытворчасці.

**Людміла Бельская,** інвалід II групы з дзяцінства, працуе на прадпрыемстве ўжо тры гады. Жыве з бацькамі, якія на пенсіі.

«*Канешне, праца няпростая, і я стамляюся, але добра, што ёсць хоць такая, паколькі прыйшоў час дапамагаць састарэлым бацькам*, – кажа дзяўчына. – *Праўда, раблю за змену ў тры разы менш, чым здаровыя людзі»*.

Пра сваю пенсію Людміла казаць саромеецца, а на працы атрымлівае каля 300 рублёў, і гэта нядрэнная падмога.

«*Я скончыла каледж, нідзе не магла ўладкавацца бухгалтарам, бо ўсюды патрэбны былі спецыялісты з вопытам*, – кажа дзяўчына. – *І на маю інваліднасць працадаўцы не звярталі ўвагі, казалі, што ў нас канкурэнцыя...»*

Праўда, Людміла ні на што не скардзіцца, кажа, што здаровым людзям таксама жыць трэба і сёння многім нялёгка.

### «У нас ёсць прапановы, як дапамагчы прадпрыемствам інвалідаў...»

Мікалай Лемяноўскі згадвае, што летась іх прадпрыемства наведала міністр працы і сацыяльнай абароны **Ірына Касцевіч.** Ёй распавялі пра праблемы і выказалі свае прапановы.

«*Сустрэча мела плён*, – кажа Лемяноўскі. – *У прыватнасці, такім прадпрыемствам, як наша, адмянілі абавязковую сертыфікацыю, якая пацвярджае, што прадукцыя з'яўляецца ўласнай вытворчасцю прадпрыемства. Кожны год мы плацілі за гэта 500–600 рублёў, хаця ўвесь час шыем адну і тую ж прадукцыю»*.

Гэта добра, але, адзначае дырэктар «ІнваШансу», далёка не ўсё, што павінна зрабіць дзяржава для інвалідаў, калі яна насамрэч дэкларуе сваю апеку над імі.

«*Дзяржава павінна ўвесці абавязковую квоту для ўсіх дзяржаўных прадпрыемстваў, каб працоўнае адзенне, якое яны набываюць, на 10% альбо нават і больш было пашыта на прадпрыемствах, дзе працуюць інваліды*, – настойвае Мікалай Лемяноўскі. – *Мы па вядомых прычынах у такой сітуацыі, што не можам зараз выйграць тэндар у бізнесменаў, якія завозяць таннае адзенне з Расіі»*.

Лемяноўскі аргументуе такія патрабаванні тым, што да іх на працу вельмі часта прыходзяць уладкоўвацца людзі, якія сталі інвалідамі на тых самых дзяржаўных прадпрыемствах. І калі цяпер гэтыя прадпрыемствы размесцяць у іх заказы на пашыў рабочай вопраткі, то гэтым самым дапамогуць сваім былым работнікам, якія аддалі частку жыцця і здароўя розным гігантам кшталту «Азоту» і «Хімвалакна».

І дырэктар, і яго намеснік настойваюць на тым, каб дзяржава ўсё ж знізіла з 50 да 30 працэнтаў колькасць работнікаў-інвалідаў на прадпрыемствах з ільготным падаткаабкладаннем. «*Сабекошт нашай прадукцыі высокі, бо нізкая прадукцыйнасць працы людзей з інваліднасцю. Калі б мы маглі павысіць прадукцыйнасць працы і знізіць сабекошт, у нас з'явілася б больш сродкаў, і частка іх магла б ісці на пашырэнне вытворчасці, а значыць, на стварэнне новых працоўных месцаў»*, – падсумоўвае Мікалай Лемяноўскі.

Васіль Лукашэвіч распавядае, што, нягледзячы на ўсе складанасці цяперашняга жыцця, нашы інваліды не маюць звычкі хадзіць па інстанцыях са скаргамі. Калі таварыства звяртаецца да канкрэтных прадпрыемстваў з просьбай аказаць матэрыяльную дапамогу, то звычайна ім не адмаўляюць.

Сярод «мецэнатаў» ён называе «Гроднажылбуд», «Гроднаэнерга», «Контэ», «Вібагандаль», «Оптгандаль». Аде дадае, што многія, хто жадае дапамагчы інвалідам, сутыкаюцца з папяровымі праблемамі. «*Часта мне кажуць: каб даць вам дапамогу, трэба звязвацца з міністэрствам, а там замучаюць гэтымі паперкамі*, – канстатуе спадар Лукашэвіч. – *А раней у беларускім заканадаўстве існавала норма, што дабрачынная дзейнасць для інвалідаў не абкладаецца падаткамі»*.

І яшчэ спадар Лукашэвіч зазначае, што праблема працаўладкавання інвалідаў асабліва востра стаіць у вёсках і маленькіх гарадках. І там насамрэч вельмі часта свет чалавека з інваліднасцю абмяжоўваецца чатырма сценамі.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

